

# IL VICCOLO DI MADAMA LUCREZIA[1]

Калі мне было дваццаць тры гады, я паехаў у Рым. Бацька даў мне з сабой каля тузіна рэкамендацыйных лістоў, адзін з якіх, не менш чым на чатыры старонкі, быў запячатаны. На канверце было пазначана: «Маркізе Альдабрандзі».

— Напішаш мне,— сказаў бацька,— ці маркіза яшчэ гэткая прыгожая, як і раней.

Варта адзначыць, што я, колькі сябе помню, заўсёды бачыў у яго ў кабінеце над камінам мініяцюрны партрэт вельмі прыгожай жанчыны з напудранымі валасамі, з плюшчовым вянком на галаве і тыгровай шкурай на плячы. Збоку быў надпіс: *Roma, 18...*[2] Убранне яе здавалася мне дзіўным, і таму я не раз пытаўся, хто была гэтая дама. Мне адказвалі:

— Гэта бакханка.

Але гэты адказ не надта мяне задавальняў, я нават падазраваў, што тут хаваецца нейкая таямніца, бо на гэтае простае пытанне мая маці падціскала вусны, а бацька рабіўся паважны.

Гэтым разам, даючы мне запячатаны ліст, ён крадком глянуў на партрэт. Я мімавольна зрабіў тое самае, і мне ў галаву прыйшла думка, што гэтая напудраная бакханка якраз і ёсць маркіза Альдабрандзі. Я пачынаў ужо нешта разумець у гэтым свеце і зрабіў сякія-такія высновы з незадавальнення маці і гэтага позірку бацькі.

Прыехаўшы ў Рым, свой першы візіт я нанёс маркізе. Яна жыла ў прыгожым палацы побач з плошчай святога Марка.

---

[1] Завулак пані Лукрэцыі *(італ.)*.
[2] Рым, 18... *(італ.)*.

Я ўручыў ліст і візітную картку лёкаю ў жоўтай ліўрэі, і ён правёў мяне ў прасторную, амаль пустую залу, цьмяную і панылую. Але ва ўсіх рымскіх палацах ёсць карціны вялікіх майстроў. Нямала іх было і ў гэтай зале, а сярод іх некалькі вельмі цікавых.

Спачатку я заўважыў жаночы партрэт, як мне здалося, работы Леанарда да Вінчы. З багатай рамы і палісандравай падставы, на якой стаяла карціна, можна было меркаваць, што гэта быў найкаштоўнейшы твор у калекцыі. Маркізы ўсё не было, і ў мяне было досыць часу, каб уважліва разгледзець карціну. Я нават паднёс яе да акна, каб пабачыць яе пад лепшым асвятленнем. Без сумнення, гэта быў партрэт, а не мастакова фантазія, бо такі твар было немагчыма выдумаць: прыгожая жанчына з пульхнымі вуснамі, густымі бровамі, з позіркам адначасова ласкавым і напышлівым. У куце карціны быў герб, увенчаны герцагскай каронай. Але найбольш мяне ўразіла тое, што ўбранне жанчыны, за выключэннем пудры ў валасах, было такое самае, як у бакханкі ў кабінеце майго бацькі.

Калі ўвайшла маркіза, я яшчэ трымаў партрэт у руцэ.

— Ну, зусім як бацька! — засмяялася яна, падышоўшы.— Во ўжо французы! Не паспеў прыехаць, як ужо схапіў *пані Лукрэцыю*.

Я адразу ж папрасіў прабачэння за сваю недалікатнасць і пачаў выхваляць, што было слоў, гэты шэдэўр Леанарда, які я насмеліўся парушыць.

— Гэта сапраўды Леанарда,— сказала маркіза,— гэта партрэт ліхаслыннай Лукрэцыі Борджа. З усіх маіх карцін ваш бацька найбольш любіў гэтую... Але ж, Божа, якое падабенства! Здаецца, перада мною ваш бацька, якім ён быў дваццаць пяць гадоў таму. Як ён пачуваецца? Што парабляе? Ці не збіраецца некалі заехаць да нас у Рым?

Хоць маркіза была без пудры і без тыгровай шкуры, я з першага позірку, сілаю натхнення, пазнаў у ёй бацькаву бакханку. Нейкія там дваццаць пяць гадоў не маглі сцерці дашчэнту сляды вялікае прыгажосці. Змяніўся толькі выраз твару, а таксама ўбранне. Яна ўся была ў чорным, а яе трайное падбароддзе, паважная ўсмешка, светла-ўрачысты позірк сведчылі, што яна сталася вельмі пабожнай.

Прыняла яна мяне, зрэшты, надзвычай сардэчна. Без лішніх цырымоній яна сказала, што я магу распараджацца яе домам, яе грашыма і яе сябрамі, сярод якіх яна назвала і некалькі кардыналаў.

— Будзьце са мною, як са сваёй маці...— сказала яна

і апусціла вочы.— Ваш бацька абавязвае мяне даглядаць за вамі і даваць вам неабходныя парады.

І, каб давесці мне, што яна не лічыць свае абавязкі фармальнымі, яна зараз жа пачала засцерагаць мяне перад усімі небяспекамі, якімі можа пагражаць Рым маладому чалавеку маіх гадоў, і настойліва заклікала мяне пазбягаць гэтых небяспек. Я мусіў унікаць благіх знаёмстваў, асабліва артыстаў, і зносіцца толькі з тымі людзьмі, якіх яна мне параіць. Карацей, мне давялося выслухаць нуднае павучанне. Я адказаў на яго з належнай пачцівасцю і крывадушнасцю.

Калі я ўстаў, каб развітацца, яна сказала:

— Шкада, што мой сын, маркіз, выехаў цяпер у наш маёнтак у Раманью, але я пазнаёмлю вас з другім маім сынам, донам Отавіо, які ў хуткім часе стане папскім прэлатам. Спадзяюся, што ён вам спадабаецца і што вы пасябруеце, бо вы павінны пасябраваць...

І яна паспешліва дадала:

— Вы ж амаль аднагодкі, а ён — хлопец ціхмяны і прыстойны, як вы.

І яна загадала паклікаць дона Отавіо. Перада мною з'явіўся высокі бледны маладзён задуменнага выгляду. Ён стаяў, не паднімаючы вачэй, але за яго пабожнай пакорлівасцю адчувалася прыхаваная крывадушнасць.

Не даўшы яму і рота раскрыць, маркіза запрапанавала мне ад яго імя ўсе магчымыя паслугі. Ён пацвярджаў глыбокімі паклонамі ўсё, што казала яго маці, і мы дамовіліся, што ўжо заўтра ён зойдзе па мяне і мы пойдзем гуляць разам у горад, а пасля завітаем на сямейны абед у палац Альдабрандзі.

Не паспеў я прайсці па вуліцы дваццаці крокаў, як нехта ззаду закрычаў уладарным голасам:

— Куды гэта вы шыбуеце адзін гэткай гадзінай, дон Отавіо?

Я павярнуўся і ўбачыў тоўстага абата, які, вытрашчыўшы вочы, аглядаў мяне з галавы да ног.

— Я не дон Отавіо,— адказаў я.

Святар, склаўшы глыбокі паклон, расплыўся прабачэннямі, і праз хвіліну я бачыў, як ён увайшоў у палац Альдабрандзі. Я рушыў далей, не надта ўлешчаны тым, што мяне прынялі за будучага прэлата.

Нягледзячы на папярэджанні маркізы, а можа, якраз зважаючы на гэтыя папярэджанні, я як найхутчэй знайшоў кватэру аднаго майго знаёмага мастака, і цэлую га-

дзіну ў яго майстэрні мы гаварылі пра забавы, дазволеныя і недазволеныя, якія Рым мог мне запрапанаваць. Я спытаўся ў яго пра Альдабрандзі.

Маркіза, адказаў ён, быўшы даволі легкадумнай, кінулася ў глыбокую пабожнасць, калі зразумела, што век заваёваў для яе мінуўся. Яе старэйшы сын — грубы, як мядзведзь, і ўвесь свой час займаецца паляваннем або збірае грошы з фермераў у яго абшырных уладаннях. А цяпер яшчэ спрабуюць здзічыць і другога сына, дона Отавіо, з якога хочуць зрабіць кардынала. Пакуль што ён аддадзены пад нагляд езуітам. Ён ніколі не выходзіць з дому адзін. Яму не дазваляецца глядзець на жанчын, і ён не можа зрабіць і кроку, каб за ім не пайшоў святар, што выхоўвае яго для служэння Богу, і які, быўшы апошнім *amico*[1] маркізы, трымае цяпер яе дом пад сваёй амаль дэспатычнай уладай.

Наступнага дня дон Отавіо разам з абатам Негроні, тым самым святаром, які за дзень перад тым прыняў мяне за свайго выхаванца, заехаў па мяне на брычцы і запрапанаваў сябе ў якасці праваднікa.

Першым помнікам, каля якога мы спыніліся, была царква. Следам за святаром дон Отавіо ўкленчыў, ударыў сябе ў грудзі і пачаў доўга жагнацца. Устаўшы, ён паказаў мне фрэскі і статуі і гаварыў са мною разважліва і густоўна. Гэта прыемна мяне здзівіла. Мы разгаварыліся, і размова нашая мне спадабалася. Нейкі час мы гаварылі па-італьянску. І раптам ён сказаў мне па-французску:

— Мой выхавальнік ні слова не разумее ў вашай мове. Давайце гаварыць па-французску, так мы будзем вальнейшыя.

Змяніўшы мову, гэты хлопец непазнавальна змяніўся сам. Нічога ў яго словах не выдавала святара. Здавалася, я слухаю нейкага нашага правінцыйнага вальнадумца. Я заўважыў, што ён наўмысна гаварыў нудлівым, аднастайным голасам, і аднастайнасць гэтая дзіўным чынам кантраставала з яскравасцю выразаў. Відаць, ён прызвычаіўся такім чынам уводзіць у зман Негроні, які час ад часу прасіў перакладаць яму нашую размову. Вядома ж, перакладалі мы яму надзвычай вольна.

Перад намі прайшоў малады чалавек у бэзавых панчохах.

— Вось,— сказаў мне дон Отавіо,— нашы цяперашнія патрыцыі. Паскудныя апранахі! І на мне будуць гэткія праз

---

[1] Сябрам, каханкам *(італ.)*.

колькі месяцаў! Якое шчасце,— дадаў ён, памаўчаўшы,— якое шчасце жыць у такой краіне, як ваша! Калі б я быў французам, я б, можа, калі-небудзь стаў дэпутатам!

Гэтыя шляхотныя памкненні нямала мяне рассмяшылі. Наш абат гэта заўважыў, і я мусіў яму тлумачыць, што мы гаварылі пра памылку аднаго археолага, які палічыў статую Берніні за антычную.

Мы вярнуліся на абед у палац Альдабрандзі. Амаль адразу пасля кавы маркіза папрасіла ў мяне прабачэння за сына, які мусіў дзеля нейкіх пабожных абавязкаў пайсці ў свой пакой. Я застаўся адзін з ёю і абатам Негроні, які, адхіліўшыся ў вялікім фатэлі, спаў сном праведніка.

Тым часам маркіза падрабязна распытвала мяне пра бацьку, пра Парыж, пра маё жыццё, пра мае планы на будучыню. Яна здалася мне ласкавай і добрай, але крыху занадта цікаўнай і над меру пільнай аб збаўленні маёй душы. Зрэшты, яна гаварыла цудоўнай італьянскай мовай, і я атрымаў выдатны ўрок вымаўлення, які я паабяцаў сабе паўтарыць.

Я часта заходзіў да яе. Амаль штораніцы я хадзіў аглядаць старажытнасці з яе сынам і заўсёдным Негроні, а вячэраў я з імі ў палацы Альдабрандзі. У маркізы госці бывалі рэдка, дый тыя выключна царкоўнікі.

Але аднойчы яна адрэкамендавала мяне адной немцы, нованавернenaй каталічцы і яе блізкай сяброўцы. Гэта была пані Штраленхайм, даволі прыгожая асоба, што ўжо даўно жыла ў Рыме. Пакуль гэтыя дамы гаварылі пра нейкага славутага прапаведніка, я разглядаў пад лямпай партрэт Лукрэцыі, і раптам мне захацелася перапыніць іх размову.

— Якія вочы! — сказаў я захоплена.— Здаецца, зараз у яе задрыжаць павекі!

Пачуўшы гэтую крыху вычварную гіпербалу, на якую я насмеліўся, каб выставіцца знаўцам перад пані Штраленхайм, яна здрыганулася ад страху і схавала твар у насовачку.

— Што з вамі, даражэнькая? — спыталася маркіза.

— Ай, нічога! Але ж гэты пан сказаў...

Яе засыпалі пытаннямі, і як толькі яна прызналася, што мае словы нагадалі ёй адно жахлівае здарэнне, мы прымусілі яе расказаць.

Вось, у двух словах, што яна сказала:

Залвіца пані Штраленхайм, якую звалі Вільгельміна, была заручаная з маладым чалавекам з Вестфаліі, Юліусам Кацэнэленбогенам, наймітам у дывізіі генерала Кляйста.

Язык можна паламаць, вымаўляючы столькі дзікунскіх імёнаў, але ж неверагодныя гісторыі здараюцца толькі з асобамі, чые імёны вельмі цяжка вымаўляць.

Юліус быў ладны хлопец, поўны патрыятызму і метафізікі. Адыходзячы ў войска, ён падараваў Вільгельміне свой партрэт, а Вільгельміна падаравала яму свой, які ён заўсёды насіў каля сэрца. Гэтак часта робяць у Нямеччыне.

13 верасня 1813 года, каля пятай гадзіны ўвечары, Вільгельміна сядзела разам з маці і швагеркай у гасцёўні іх дома ў Касэлі і вязала. На століку перад ёй стаяў партрэт яе жаніха, на які яна раз-пораз паглядала. І раптам яна нема закрычала, паднесла руку да сэрца і страціла прытомнасць. Што толькі не спрабавалі, каб яе ачуціць, і як толькі ёй вярнулася мова, яна закрычала:

— Юліус памёр! Юліус забіты!

Яна сцвярджала, і жах, адбіты на яе твары, ва ўсім пацвярджаў яе ўпэўненасць, што бачыла, як партрэт заплюшчыў вочы, і ў той самы момант яна адчула нясцерпны боль, быццам ёй працялі сэрца распаленым жалезам.

Дарма ўсе стараліся яе пераканаць, што гэты відзеж не меў нічога агульнага з сапраўднасцю і што не трэба надаваць яму ніякае ўвагі. Бедная дзяўчына была несуцешная. Яна праплакала ўсю ноч, а назаўтра вырашыла надзець жалобнае ўбранне, ужо пэўная свайго няшчасця, таемным чынам ёй абвешчанага.

Праз два дні надышла навіна пра крывавую бітву пад Лейпцыгам, Юліус напісаў сваёй нарачонай 13-га а трэцяй гадзіне. Ён не быў паранены, адзначыўся ў бітве і ўвайшоў у Лейпцыг, дзе меркаваў заначаваць разам са штабам, бяражоны такім чынам ад небяспекі. Але гэтае суцяшальнае пасланне не супакоіла Вільгельміну, яна, убачыўшы, што ліст быў напісаны а трэцяй гадзіне, усё роўна казала, што яе каханы загінуў а пятай.

Няшчасная дзяўчына не памылялася. Неўзабаве мы даведаліся, што а палове пятай Юліус выправіўся з Лейпцыга з даручэннем, і за тры чвэрці лье ад горада, па той бок Эльстэра, варожы салдат, які адстаў ад свайго войска і хаваўся ў рове, забіў яго адным стрэлам. Куля, трапіўшы ў самае сэрца, прабіла партрэт Вільгельміны.

— А што сталася з гэтай няшчаснай маладой асобай?— спытаўся я ў пані Штраленхайм.

— О, яна цяжка хварэла. Цяпер яна замужам за панам фон Вернерам, дараднікам юстыцыі, і калі вам давядзецца быць у Дэсаў, яна пакажа вам партрэт Юліуса.

— Усё гэта адбываецца не без удзелу д'ябла,— сказаў абат, які, пакуль пані Штраленхайм апавядала, спаў толькі на адно вока.— Той, хто змушаў прамаўляць паганскіх аракулаў, можа гэтак жа проста прымусіць партрэт міргаць вачыма, калі яму толькі захочацца. Гадоў дваццаць таму ў Цівалі аднаго англічаніна задушыла статуя.

— Статуя! — закрычаў я.— Але як?

— Гэта быў адзін мілорд, які вёў раскопкі ў Цівалі. Ён знайшоў статую імператрыцы Агрыпіны ці Месаліны... ну, гэта не так важна. Карацей, ён загадаў перанесці статую да сябе і ад доўгага на яе глядзення і захаплення звар'яцеў. Усе гэтыя пратэстанты і так ужо больш чым напалову вар'яты. Ён зваў яе сваёй жонкай, мілэдзі, абдымаў яе, мармуровую. Ён казаў, што кожнага вечара статуя, на ягоную радасць, рабілася жывая. Аж пакуль аднойчы раніцай яго не знайшлі мёртвага ў ложку. І, ці паверыце, знайшоўся другі англічанін, які купіў гэтую статую. Што да мяне, дык я лепш загадаў бы перавесці яе на вапну.

Калі ўжо бяруцца апавядаць пра звышнатуральныя здарэнні, спыніцца бывае цяжка. Кожнаму было што расказаць, і я таксама выступіў у гэтым спаборніцтве жахлівых гісторый. Урэшце, калі настаў час развітацца, усе мы былі парадкам узрушаныя і прасякнутыя павагай да д'яблавай магутнасці.

Я пайшоў дадому пешкі і, каб выйсці на вуліцу Корса, звярнуў у вузенькі крывы завулак, якім я яшчэ ніколі не хадзіў. Завулак быў пусты. Быў відаць толькі доўгі садовы мур і колькі ўбогіх дамкоў без ніводнага агеньчыка. Толькі што прабіла поўнач, навокал было цёмна. Ішоў я даволі хутка і быў ужо ў сярэдзіне завулка, калі раптам пачуў над галавой нейкі гук, нейкае ціхае «Цссс!», і ў той самы момант пад ногі мне ўпала ружа. Я падняў вочы і, хоць было цёмна, заўважыў у акне жанчыну ў белым, яна працягвала мне руку. Мы, французы, ведаем сабе цану, калі мы ў іншай краіне, бо нашы бацькі, заваёўнікі Еўропы, выгадавалі нас на традыцыях, уцешных для нацыянальнага гонару. Я непахісна верыў, што ўсе немкі, іспанкі і італьянкі, як толькі пабачаць француза, адразу запальваюцца гарачым каханнем. Карацей, тады я яшчэ быў істым французам, дый ружа — ці не гаварыла яна лепш за любыя словы?

— Пані,— сказаў я ціха, падняўшы ружу,— у вас упаў букет.

Але жанчына ўжо знікла, і акно было зачыненае. Я зрабіў тое, што зрабіў бы любы на маім месцы. Я пашукаў най-

бліжэйшыя дзверы — яны былі за два крокі ад акна. Знайшоўшы дзверы, я стаў чакаць, пакуль мне адчыняць. Пяць хвілін было ціха. Тады я пакашляў, пасля ціхенька паскробся, але дзверы не расчыніліся. Я разгледзеў іх уважлівей, спадзеючыся знайсці ключ або засаўку, але, на маё вялікае здзіўленне, убачыў навясны замок.

«Значыць, раўнівец яшчэ не вярнуўся»,— сказаў я сам сабе. Я падняў каменьчык і кінуў яго ў акно. Ударыўшыся аб драўляныя аканіцы, ён упаў мне пад ногі. «Што за халера,— падумаў я,— што яны, гэтыя рымлянкі, думаюць, што ўсе носяць у кішэні лесвіцу? Мне не казалі пра такі звычай».

Я пачакаў яшчэ некалькі хвілін, але марна. І толькі раз ці два мне здалося, што аканіцы зварухнуліся, быццам нехта хацеў іх рассунуць, каб выглянуць на вуліцу. Праз чвэрць гадзіны, страціўшы цярплівасць, я запаліў цыгару і пайшоў далей, папярэдне добра запомніўшы, дзе стаіць гэты дом з замком на дзвярах.

Назаўтра, раздумваючы над гэтай прыгодай, я спыніўся на наступных высновах: маладая рымлянка, магчыма, вельмі прыгожая, убачыла мяне падчас маіх прагулак у горадзе і была зачараваная маёй сціплай знешнасцю. Што яна аб'явіла мне свае пачуцці, толькі падараваўшы гэтую таямнічую кветку, дык, пэўна, яе стрымала цнатлівасць або ёй замінала прысутнасць дуэньі ці апекуна, накшталт Бартола ў Разіны. Я вырашыў распачаць рэгулярную аблогу дома, дзе жыла гэтая інфанта.

З гэткімі высакароднымі намерамі я выйшаў з дома, зухавата ўчасаўшы валасы. Я надзеў новы сурдут і жоўтыя пальчаткі. У гэткім убранні, у ссунутым на вуха капелюшы, з прывялай ружай у пятліцы я пайшоў на вуліцу, назвы якой я яшчэ не ведаў, але знайсці яе было няцяжка. Надпіс над выявай мадонны паведамляў: *il viccolo di Madama Lucrezia*.

Гэтае імя мяне здзівіла. Я адразу згадаў партрэт Леанарда да Вінчы, а таксама гісторыі аб нядобрых прадчуваннях і д'яблавых штуках, чутыя напярэдадні ў маркізы. Пасля я падумаў, што існуе ў свеце каханне, наканаванае небам. Чаму б прадмету маёй страсці не звацца Лукрэцыяй? Чаму б ёй не быць падобнай да Лукрэцыі з галерэі Альдабрандзі?

Стаяў дзень, я быў за два крокі ад прынаднай асобы, і ніводная змрочная думка не трывожыла маіх пачуццяў.

Я быў перад тым домам. На ім стаяў нумар 13. Благі

знак... Авох, дом быў зусім не такі, якім я сабе яго ўяўляў, пабачыўшы яго ўначы. Гэта быў зусім не палац. Перада мною быў двор, абнесены замшэлым і пачарнелым ад часу мурам, за якім віднеліся галіны недагледжаных фруктовых дрэваў. У кутку двара стаяў двухпавярховы дамок з двума вокнамі на вуліцу. Вокны былі закрытыя старымі аканіцамі з цяжкімі жалезнымі накладкамі. На нізкіх дзвярах, над якімі быў след ад сцертага герба, вісеў, як і напярэдадні, вялікі замок на ланцугу. На дзвярах было напісана крэйдай: *Дом прадаецца або здаецца ў наём.*

Аднак я не памыліўся. З гэтага боку вуліцы дамоў было мала, і таму зблытаць было немагчыма. Гэта быў той самы замок, і што яшчэ важнейшае, два ружовыя пялёсткі на бруку каля дзвярэй паказвалі дакладнае месца, дзе я атрымаў знак ад маёй каханай, і сведчылі пра тое, што перад домам не надта звыклі прыбіраць.

Я звярнуўся да суседзяў, каб даведацца, дзе можна знайсці даглядчыка гэтага таямнічага жытла.

— Гэта не тут,— непрыязна адказвалі мне ў кожным доме.

Здавалася, што маё пытанне не падабалася тым, у каго я пытаўся, і гэта яшчэ больш распаліла маю цікаўнасць. Ходзячы ад адных дзвярэй да другіх, я ўрэшце апынуўся ў нейкай цьмянай пячоры, дзе я ўбачыў старую жанчыну, якую можна было палічыць за вядзьмарку, бо побач з ёю сядзеў чорны кот, а ў сагане варылася невядома што.

— Вы хочаце паглядзець дом пані Лукрэцыі? — спыталася яна.— Ключы ад дома ў мяне.

— Ну дык пакажыце мне дом.

— Вы хацелі б зняць яго ў наём? — сказала яна з недаверлівай усмешкай.

— Так, калі ён мне спадабаецца.

— Ён вам не спадабаецца. А вы дасцё мне срэбную манету, калі я вам яго пакажу?

— Ну, вядома, дам.

Усцешаная маім запэўненнем, яна падхапілася са свайго ўслончыка, зняла са сцяны ржавы ключ і павяла мяне да дома нумар 13.

— Чаму гэты дом называюць домам Лукрэцыі? — спытаўся я.

— А чаму вас называюць іншаземцам? Ці не таму, што вы іншаземец? — з'едліва перапытала яна.

— Ну добра, а хто ж была гэтая пані Лукрэцыя? Нейкая славутая рымская дама?

— Ды што ж гэта! Вы прыехалі ў Рым і не чулі пра пані Лукрэцыю! Калі мы зойдзем у дом, я раскажу вам пра яе. Але што за ліха з гэтым ключом! Ніяк не павярну. Можа, вы паспрабуйце.

І сапраўды, ключ, відаць, ужо даўно не бачыўся з замком. Аднак, тройчы выкляўшы і ключ і замок і гэтулькі ж скрыгнуўшы зубамі, я здолеў павярнуць ключ. Але пры гэтым я падраў свае жоўтыя пальчаткі і звярэдзіў далонь. Мы трапілі ў цьмяны праход, з якога вялі дзверы ў некалькі нізенькіх пакояў.

Столі са старасвецкімі ляпнымі ўпрыгожаннямі былі затканыя павуціннем, пад якім праглядалі ледзь заўважныя сляды залачэння. Затохлы пах, што стаяў ва ўсіх пакоях, сведчыў пра тое, што тут ужо даўно ніхто не жыў. Нідзе не было ніякай мэблі. Сям-там са сцен, збялелых ад салетры, звісалі шматкі старых скураных шпалераў. Мяркуючы па скульптурах на кансолях і па форме камінаў, дом быў пабудаваны ў XV стагоддзі, і, магчыма, некалі ён быў даволі шыкоўна ўпрыгожаны. Вокны з маленькімі шыбкамі, з якіх амаль усе былі пабітыя, выходзілі ў сад, дзе я заўважыў ружоўнік у квецені, колькі фруктовых дрэваў і безліч капусных качаноў.

Абышоўшы ўсе пакоі на першым паверсе, я падняўся на верхні паверх, дзе ўбачыў напярэдадні маю незнаёмку. Старая спрабавала мяне стрымаць, кажучы, што там няма чаго глядзець, дый сходы былі благія. Але, пабачыўшы маю ўпартасць, яна саступіла і пайшла за мною з відавочнай агідай. Пакоі на гэтым паверсе былі падобныя да іншых, хіба што яны былі не такія сырыя. Столь і вокны таксама захаваліся лепей. У апошнім пакоі стаяў вялікі фатэль з чорнай скуры, на якім — о дзіва! — не было пылу. Я сеў і, вырашыўшы, што, седзячы ў ім, будзе ўтульней слухаць гісторыю, папрасіў старую расказаць пра пані Лукрэцыю, але спачатку, каб асвяжыць яе памяць, я адшкадаваў ёй некалькі паола. Яна адкашлялася, высмаркалася і пачала гэткімі словамі:

— За паганскіх часоў быў імператар Аляксандр. У яго была дачка, прыгожая, як сонца, яе звалі пані Лукрэцыя. А во, вось яна!..

Я рэзка павярнуўся. Старая паказала мне скульптуру на кансолі, якая трымала цэнтральную бэльку столі. Гэта была даволі груба вылепленая сірэна.

— О, гэтая пані надта любіла забаўляцца,— працягвала старая.— Але яе бацьку гэта не вельмі падабалася,

і таму яна загадала збудаваць сабе гэты дом, дзе мы цяпер ёсць.

Кожнае ночы яна спускалася з Квірынала і прыходзіла сюды. Яна садзілася каля гэтага акна, і калі па вуліцы ішоў прыгожы кавалер, ну вось як вы, пане, яна яго клікала. Ці добра яна яго прымала — здагадвайцеся самі. Але мужчыны — балбатуны, прынамсі некаторыя, і яны маглі б ёй нашкодзіць сваімі языкамі. Дык яна прыдумала,што рабіць. Калі яна развітвалася з кавалерам, яе збройныя слугі ўжо чакалі на сходах, па якіх мы сюды падняліся. Тут яны яго і канчалі ды закопвалі ў капусных градах. Во пасля пазнаходзілі костак у гэтым садзе!

Гэтыя забавы цягнуліся нейкі час. Аж неяк вечарам яе брат, якога звалі Сікст Тарквін, праходзіў пад акном. Яна яго не пазнала. Паклікала. Ён падняўся. Поначы ўсе каты шэрыя. З ім сталася тое, што і з іншымі. Але ён пакінуў у яе сваю насоўку, на якой было вышыта яго імя.

Не паспела яна зразумець, якога ліха яны нарабілі, як яе агарнула роспач. Дык яна хуценька зняла падвязку і засілілася на гэтай бэльцы. Вось вам прыклад для моладзі!

Пакуль старая блытала ўсе часы і эпохі, мяшаючы Тарквінаў з Борджамі, я неадрыўна глядзеў на падлогу. Я ўгледзеў там некалькі пялёсткаў ружы, яшчэ свежых, і яны змусілі мяне задумацца.

— Хто даглядае за гэтым садам? — спытаўся я ў старой.

— Мой сын, пане, садоўнік пана Ваноццы, чый сад побач. Пан Ваноццы сядзіць увесь час у Марэмах і рэдка прыязджае ў Рым. Вось чаму сад не надта дагледжаны. А мой сын з'язджае разам з ім. І я баюся, што яны яшчэ не хутка вернуцца,— дадала яна, уздыхнуўшы.

— Дык ён вельмі заняты з панам Ваноццы?

— Ай, гэта дзівак, які што толькі яму не даручае... Баюся, каб што кепскае не здарылася... Авох, мой бедны сыночак!

Яна ступіла крок да дзвярэй, нібыта хочучы скончыць размову.

— Дык тут ніхто не жыве? — перапытаўся я, спыняючы яе.

— Ніхто, а хто ж?

— А чаму?

Яна пацíснула плячыма.

— Паслухайце,— сказаў я, паказаўшы ёй піястр,— скажыце мне праўду. Сюды прыходзіць адна жанчына.

— Жанчына? Божа барані!

— Так, я бачыў яе ўчора вечарам. Я нават гаварыў з ёй.

— Святая мадонна! — закрычала старая і пабегла да сходаў.— Дык гэта пані Лукрэцыя? Уцякайма, уцякайма, пане! І праўда, мне казалі, што яна прыходзіць начамі, але ж я не хацела вам гаварыць, каб не нашкодзіць гаспадару, бо я думала, што вы хочаце зняць дом у наём.

Утрымаць яе было немагчыма. Яна спяшалася выйсці з дома, каб, як яна тлумачыла, хутчэй паставіць свечку ў найбліжэйшай царкве.

Я таксама выйшаў і, не спадзеючыся дазнацца болей, не стаў яе даганяць.

Вядома ж, у палацы Альдабрандзі я нічога не расказаў пра мае прыгоды: маркіза была занадта цнатлівая, а дон Отавіо, якога цікавіла выключна палітыка, не мог парадзіць у гэткай сардэчнай справе. Тады я пайшоў да майго мастака, які ведаў увесь Рым да апошняга ката, і спытаўся, што ён пра гэта думае.

— Думаю, што вы бачылі прывід Лукрэцыі Борджа,— адказаў ён.— Вам пагражае страшная небяспека! Яна і жывая была небяспечная, а вы падумайце, якая яна цяпер, мёртвая! Дрыжыкі бяруць.

— Толькі без жартаў, што б гэта магло быць?

— А, дык, значыць, вы атэіст і філосаф і не верыце ў самыя паважныя рэчы. Добра. Тады што вы скажаце пра другую версію: дапусцім, што старая здае свой дом жанчынам, здольным вабіць людзей, якія праходзяць па вуліцы. Колькі ўжо было такіх старых распусніц!

— Цудоўна,— адказаў я.— Дык я, мабыць, падобны да святога, калі старая не запрапанавала мне паслугі. Гэта мяне абражае. А пасля, шаноўны, прыгадайце сабе абсталюнак гэтага дома. Наўрад ці яго было б дастаткова для такой справы, хіба што ўжо калі надта прыпячэ.

— Ну дык тады гэта прывід. Пачакайце! Яшчэ адна версія. Можа, вы пераблыталі дом. Да д'ябла! Як вы кажаце: каля саду? маленькія дзверы?.. Дык жа гэта мая добрая сяброўка Разіна. Года паўтара таму яна была ўпрыгожаннем гэтае вуліцы. Праўда, яна з тых часоў аслепла на адно вока, але гэта дробязі... У яе ўсё яшчэ вельмі прыгожы профіль.

Усе гэтыя тлумачэнні мяне не задаволілі. Калі настаў вечар, я няспешна прайшоўся перад домам Лукрэцыі. Я нічога не ўбачыў. Прайшоў яшчэ раз — нічога. І так тры ці чатыры вечары запар я спыняўся пад яе вокнамі, вяртаю-

чыся з палаца Альдабрандзі, і ўсё марна. Я ўжо пачаў забывацца на таямнічую насельніцу дома нумар 13, калі аднойчы, ідучы каля паўночы па завулку, я выразна пачуў жаночы смех за акном, дзе мне некалі з'явілася даравальніца руж. Я пачуў гэты смех двойчы і не мог адолець страху, калі пабачыў у тую хвіліну, як на другім канцы завулка паказалася жалобнае шэсце — манахі ў каптурах, са свечкамі, неслі хаваць нябожчыка. Калі яны зніклі з вачэй, я стаў, нібы на варту, пад акном, але болей нічога не пачуў. Я паспрабаваў кідаць каменьчыкі і нават досыць выразна паклікаў. Ніхто не аб'явіўся, паліў дождж, і я мусіў адступіць.

Мне сорамна прызнацца, колькі разоў я спыняўся перад гэтым праклятым домам, няздольны разгадаць таямніцу, якая мяне непакоіла. Аднойчы я праходзіў гэтым завулкам з донам Отавіо і яго неадступным абатам.

— Вось,— сказаў я,— дом Лукрэцыі.

Дон Отавіо змяніўся з твару.

— Так,— адказаў ён,— народнае паданне, зрэшты, даволі блытанае, сцвярджае, што ў Лукрэцыі Борджа быў тут свой дамок. Калі б гэтыя муры ўмелі гаварыць, колькі жахаў яны б нам адкрылі! Аднак, мой дружа, калі параўнаць тыя часы з нашымі, дык робіцца зайздросна. За часы Аляксандра VI яшчэ можна было сустрэць рымлянаў. Цяпер іх болей няма. Чэзарэ Борджа быў пачварай, але гэта быў вялікі чалавек. Ён хацеў выгнаць з Італіі варвараў, і, можа, калі б ягоны бацька пражыў болей, ён бы споўніў свае вялікія намеры. Ах, каб жа неба даслала нам тырана накшталт Борджа і каб яно вызваліла нас ад гэтых дэспатаў, што робяць з нас жывёлу!

Калі дон Отавіо пачынаў гаварыць пра палітыку, спыніць яго было немагчыма. Мы ўжо былі на плошчы дэль Попала, а ён яшчэ не скончыў прамовы, у якой услаўляў асвечаны дэспатызм. Затое мы былі ўжо за сотні лье ад мяне і маёй Лукрэцыі.

Аднаго вечара, калі я прыйшоў даволі позна засведчыць пашану маркізе, яна сказала, што яе сыну няможацца, і папрасіла мяне падняцца ў яго пакой. Калі я зайшоў, ён ляжаў у ложку апрануты і чытаў французскую газету, якую я пераслаў яму раніцай, старанна схаваўшы яе ў том Айцоў Царквы. Ад пэўнага часу збор пісанняў Айцоў Царквы служыў нам за сродак зносін, калі трэба было нешта перадаць патаемна ад абата і маркізы. У дзень, калі прыходзіла пошта з Францыі, мне прыносілі том ін-фоліо. Я вяртаў другі такі самы том, уклаўшы ў яго газету, якую я пазычаў

у сакратара пасольства. У выніку ў маркізы складалася ўражанне аб маёй пабожнасці, а яе духоўны настаўнік часам нават спрабаваў загаварыць са мной на багаслоўскія тэмы.

Пагаварыўшы нейкі час з донам Отавіо і заўважыўшы, што ён нечым надзвычай узрушаны і нават палітыка яго не займае, я параіў яму раздзецца і развітаўся з ім. Было халодна, а я быў без плашча. Дон Отавіо ўгаварыў мяне апрануць ягоны, я згадзіўся і папрасіў павучыць мяне складанаму мастацтву апранацца, як сапраўдныя рымляне.

Закручаны з галавы да ног у плашч, я выйшаў з палаца Альдабрандзі. Не паспеў я зрабіць пары крокаў па плошчы святога Марка, як нейкі проста ўбраны чалавек, якога я ўбачыў на лаўцы каля палацавай брамы, падышоў да мяне і падаў скамячаную паперку.

— У імя Божае любові, прачытайце,— сказаў ён, пасля раптам кінуўся бегчы і хутка знік.

Я ўзяў паперку і пашукаў святла, каб прачытаць. Пад лямпай, што вісела над выявай мадонны, я ўбачыў, што гэта была цыдулка, напісаная алоўкам і, відаць, дрыготкай рукой. З вялікай цяжкасцю я разабраў наступныя словы:

«Не прыходзь сёння ўвечары, інакш нам канец! Вядома ўсё, апроч твайго імя. Ніпто нас не разлучыць. Твая Лукрэцыя».

— Лукрэцыя! — закрычаў я.— Зноў Лукрэцыя! Што за містыка! «Не прыходзь». Але, даражэнькая мая, якой жа дарогаю да вас ісці?

Не перастаючы думаць пра гэтую цыдулку, я мімаволі накіраваўся да завулка пані Лукрэцыі і неўзабаве апынуўся перад домам нумар 13.

Як звычайна, завулак быў пусты, і толькі мае крокі парушалі цішыню, што панавала навокал. Я спыніўся і паглядзеў на добра знаёмае мне акно. Гэтым разам мне не прыйшлося доўга чакаць. Аканіцы павольна рассунуліся. Акно расчынілася насцеж.

Мне здалося, што з цемры пакоя з'явілася чалавечая постаць.

— Лукрэцыя, гэта вы? — спытаўся я ціха.

Мне не адказалі, але я пачуў, як нешта пстрыкнула. Спачатку я не зразумеў, што гэта было.

— Лукрэцыя, гэта вы? — паўтарыў я трошкі гучней.

У гэты момант нешта моцна ўдарыла мне ў грудзі, пачуўся выбух, і я выцягнуўся на бруку.

Хрыпаты голас крыкнуў:

— Гэта ад пані Лукрэцыі!

І аканіцы бязгучна зачыніліся.

Я ўстаў, хістаючыся, і пачаў сябе абмацваць, спадзеючыся знайсці вялікую дзірку пасярод жывата. Плашч быў прабіты, сурдут таксама, але кулю затрымалі складкі тканіны, і таму я абышоўся невялікай кантузіяй.

Я падумаў, што за першым стрэлам можа быць і другі, і адразу адышоўся ад гэтага негасціннага дома, прыціскаючыся да сцен, каб нельга было прыцэліцца.

Я, задыхаючыся, уцякаў як мага хутчэй, калі нейкі чалавек, якога я не заўважыў, дагнаў мяне, узяў за руку і спагадліва запытаўся, ці я не паранены.

Я пазнаў голас дона Отавіо. Было недарэчна ставіць яму пытанні, як бы я ні быў здзіўлены бачыць яго аднаго на вуліцы сярод ночы. У двух словах я сказаў яму, што ў мяне стралялі з таго акна і што мяне толькі кантузіла.

— Гэта памылка! — закрычаў ён.— Але сюды збіраюцца людзі. Вы можаце ісці? Мне канец, калі нас пабачаць разам. Але ж я вас не кіну.

Ён узяў мяне за руку і пацягнуў за сабою. Мы ішлі ці нават беглі, наколькі мне ставала сілы. Але неўзабаве я мусіў сесці на прыдарожную тумбу, каб перадыхнуць.

На шчасце, мы былі цяпер каля вялікага дома, дзе давалі баль. Перад уваходам стаяла мноства рамізнікаў. Дон Отавіо падышоў да аднаго, загадаў мне сесці ў экіпаж і прывёз мяне ў мой гатэль. Выпіўшы шклянку вады, я зусім ачуняў і расказаў яму ўсё, што здарылася са мною перад гэтым згубным домам ад тае ночы, калі мне падаравалі ружу, да моманту, калі мне падаравалі кулю.

Ён слухаў мяне, схіліўшы галаву, прыкрыўшы твар рукою. Калі я паказаў яму цыдулку, што я перад тым атрымаў, ён схапіў яе, прагна яе прачытаў і зноў закрычаў:

— Гэта памылка! Страшная памылка!

— Пагадзіцеся, шаноўны,— сказаў я яму,— што яна непрыемная і мне і вам таксама. Мяне ледзь не забілі, а вам нарабілі з дзесятак дзірак у плашчы. Халера, але ж і раўнівыя вашы землякі!

Дон Отавіо пацiснуў мне руку са шкадаваннем і яшчэ раз перачытаў цыдулку, нічога мне не кажучы.

— Дык растлумачце мне хоць неяк, што тут робіцца,— сказаў я.— Я ва ўсім гэтым ні халеры не разумею.

Ён пацiснуў плячыма.

— Прынамсі, што я павінен рабіць? — запытаўся я.— Да каго мне звярнуцца ў вашым святым горадзе, каб рас-

12—2798

квітацца з гэтым панам, які смаліць з акна па прахожых, нават не пытаючыся, як іх завуць. Прызнаюся вам, што я вельмі ўсцешуся, калі яго павесяць.

— Барані вас Божа! — закрычаў ён.— Вы не ведаеце гэтай краіны. Нікому ні слова не кажыце пра тое, што з вамі здарылася. Бо інакш вы будзеце рызыкаваць жыццём.

— Рызыкаваць жыццём? З якой халеры? Я мушу адпомсціць. Калі б я хоць абразіў гэтага нягодніка, тады б яшчэ нічога. Але ж за тое, што падабраў ружу... папраўдзе, я не заслужыў на кулю.

— Пакіньце гэтую справу мне,— сказаў дон Отавіо.— Можа, я здолею прасвятліць таямніцу. Але прашу вас, зрабіце ласку, у імя нашага сяброўства, не кажыце пра гэта нікому. Абяцаеце?

Ён прасіў мяне так умольна, што мне не ставала мужнасці не згадзіцца, і я паабяцаў яму ўсё, што ён хацеў. Ён шчыра падзякаваў і, зрабіўшы мне на грудзі кампрэс на калонскай вадзе, паціснуў маю руку і развітаўся.

— Дарэчы,— спытаўся я, калі ён ужо расчыніў дзверы,— як жа вы апынуліся там у той самы момант, калі са мною здарылася гэтае ліха?

— Я пачуў стрэл,— адказаў ён, трохі збянтэжаны,— і адразу выйшаў, баючыся, каб з вамі што не здарылася.

І ён паспешліва адышоў, яшчэ раз папрасіўшы захоўваць сакрэт.

Назаўтра мяне наведаў лекар, прысланы, без сумнення, донам Отавіо. Ён прапісаў мне прыпаркі, але не задаў ніводнага пытання аб прычыне таго, што да лілейнага колеру майго твару дадалося фіялетавае адценне. Тут у Рыме не лезуць у чужыя справы, і я вырашыў не ісці супраць мясцовых звычаяў.

Некалькі дзён мне не ўдавалася адкрыта пагаварыць з донам Отавіо. Ён быў вельмі заняты, яшчэ пахмурнейшы, чым звычайна, і, аднак, мне здавалася, што ён наўмысна пазбягае маіх пытанняў. У тыя рэдкія хвіліны, што мы правялі разам, ён ні слова не сказаў пра дзіўных гаспадароў дома на viccolo di Madama Lucrezia. Набліжаўся час яго высвячэння, і я звязваў яго пахмурнасць з агідай да стану, у які яго змушалі ўвайсці.

Што да мяне, я збіраўся пакінуць Рым і паехаць у Фларэнцыю. Калі я паведаміў аб ад'ездзе маркізе Альдабрандзі, дон Отавіо, на нешта спаслаўшыся, папрасіў мяне падняцца ў яго пакой.

Там ён узяў мяне за рукі і сказаў:

— Мой дарагі дружа, калі вы не зробіце мне паслугу, аб якой я вас папрашу, дык я напэўна застрэлюся, бо ў мяне не застаецца іншага выйсця. Я канчаткова вырашыў, што ніколі не ўздзену на сябе гэтыя агідныя шаты, што мяне хочуць змусіць насіць. Я хачу ўцячы з гэтай краіны. Я хачу вас папрасіць, каб вы ўзялі мяне з сабою. Вы мяне падасцё за вашага слугу. Досыць будзе аднаго лішняга слоўца ў вашым пашпарце, каб аблегчыць мне ўцёкі.

Спачатку я паспрабаваў адгаварыць яго ад гэтых намераў, кажучы пра тое, як засмуціцца яго маці. Але, пабачыўшы яго непахіснасць, я ўрэшце паабяцаў узяць яго з сабой і адпаведна вырашыць справу з пашпартам.

— Але гэта яшчэ не ўсё,— сказаў ён.— Мой ад'езд залежыць яшчэ ад поспеху адной справы, у якую я замешаны. Вы збіраецеся ад'ехаць паслязаўтра. Паслязаўтра, магчыма, у мяне ўсё абладзіцца, і тады я буду ўвесь да вашых паслуг.

— Няўжо вы зусім звар'яцелі і ўлезлі ў нейкую змову? — запытаўся я з непакоем.

— Не,— адказаў ён.— Тут гаворка пра справы не такія важныя, як лёс маёй радзімы, аднак жа досыць важныя, каб ад іх поспеху залежала маё жыццё і маё шчасце. Пакуль што я не магу вам сказаць болей. Праз два дні вы будзеце ведаць усё.

Я пачаў ужо прызвычайвацца да таямніц і махнуў рукой. Мы дамовіліся, што выедзем а трэцяй гадзіне ўначы і не спынімся, пакуль не даедзем да тасканскай тэрыторыі.

Палічыўшы, што няма сэнсу класціся спаць перад гэтак раннім ад'ездам, я выкарыстаў свой апошні вечар у Рыме, каб наведаць апошні раз усе дамы, дзе мяне тут прымалі. Я прыйшоў развітацца з маркізай і афіцыйным парадкам, дзеля прыліку паціснуць руку яе сыну. Я адчуў, як рука яго дрыжала. Ён ціха сказаў мне:

— Цяпер на карце стаіць маё жыццё. Калі вернецеся ў гатэль, вы знойдзеце ліст ад мяне. Калі дакладна а трэцяй гадзіне я не прыйду, дык болей мяне не чакайце.

Мяне ўразіла, як непазнавальна змяніўся ягоны твар, але я прыпісаў гэта натуральнаму пачуццю блізкага расстання са сваёй сям'ёю, магчыма, і назаўсёды.

Каля першай гадзіны я дабраўся да гатэля. Мне захацелася яшчэ раз прайсці па viccolo di Madama Lucrezia. Нешта белае звісала з акна, пад якім у мяне адбыліся дзве такія розныя сустрэчы. Я асцярожна падышоў і ўбачыў тоўстую вяроўку з вузламі. Ці не было гэта запрашэннем

развітацца з сіньёрай? Было падобна на тое, і спакуса была вельмі вялікая. І аднак я на яе не паддаўся, прыпомніўшы абяцанне, дадзенае дону Отавіо, а таксама той не надта ґасцінны прыём пару дзён таму, калі я дазволіў сабе значна меншую дзёрзкасць.

Я пайшоў далей, ступаючы павольна, засмучоны тым, што ўпусціў апошнюю нагоду разгадаць таямніцу дома нумар 13. З кожным крокам я азіраўся, усё яшчэ спадзеючыся ўбачыць, як нехта лезе па вяроўцы. Ніхто не паяўляўся. Я дайшоў да канца завулка і перад тым, як выйсці на Корса, сказаў, зняўшы капялюш і кіўнуўшы дому, які яшчэ віднеўся ўдалечыні:

— Бывайце, пані Лукрэцыя. Пашукайце, калі ласка, каго іншага, каб адпомсціць раўніўцу, які замыкае вас на замок.

Калі я вярнуўся ў гатэль, гадзіннік прабіў другую гадзіну. Экіпаж, гатовы да ад'езду, стаяў у двары. Адзін з гатэльных пакаёвых перадаў мне пісьмо. Яно было ад дона Отавіо, але здалося мне занадта доўгім, і я падумаў, што лепей прачытаю яго ў пакоі, і папрасіў пакаёвага пасвяціць мне на сходах.

— Пане,— сказаў ён,— ваш слуга, пра якога вы папярэдзілі, ну, які павінен ехаць з вамі...

— Ну дык што? Ён прыйшоў?

— Не, пане...

— Ён на пошце. Ён мусіць прывесці коней.

— Пане, сюды толькі што прыйшла адна дама і сказала, што хоча пагаварыць з вашым слугой. Яна захацела, што б там ні было, падняцца ў ваш пакой і даручыла мне сказаць вашаму слузе, як толькі ён прыйдзе, што пані Лукрэцыя чакае ў вашым пакоі.

— У маім пакоі? — закрычаў я, моцна сціснуўшы парэнчы сходаў.

— Так, пане. І мне здаецца, што яна таксама збіраецца ехаць, бо яна перадала мне невялічкі пакунак, і я паклаў яго на валізу.

Сэрца маё шалёна закалацілася. Забабонны страх і цікавасць разам агарнулі мяне. Я паволі паднімаўся па сходах. На другім паверсе (я жыў на трэцім) пакаёвы спатыкнуўся, свечка выпала ў яго з рук і патухла. Ён папрасіў у мяне тысячу прабачэнняў і спусціўся, каб запаліць яе зноў. Я тым часам паднімаўся далей.

Я ўставіў ключ у дзверы. Я вагаўся. Які новы прывід мяне чакае? Не раз у цемры ў маёй памяці паўставала гіс-

торыя крывавай манашкі. Можа, мяне апанаваў д'ябал, як дона Алонса? Мне здалося, што пакаёвы страшэнна марудзіць.

Я расчыніў дзверы. Дзякуй Богу! У маёй спальні гарэла святло. Я хуценька прайшоў туды праз маленькую залу. Агледзеўшыся, я пераканаўся, што ў спальні нікога не было. Але ў гэты момант я пачуў за спінай лёгкія крокі і шоргат сукенкі. Мне здалося, што мае валасы ўсталі дыбарам на галаве. Я рэзка павярнуўся.

Жанчына ў белым з чорнай мантыльяй на галаве набліжалася, выцягнуўшы рукі мне насустрач.

— Нарэшце ты прыйшоў, каханы! — закрычала яна, схапіўшы мяне за руку.

Яе рука была халодная як лёд, а твар — белы, як у нябожчыка. Я адступіў да сцяны.

— Святая мадонна, гэта не ён!.. Ах, пане, вы сябар дона Отавіо?

Гэтыя словы тлумачылі ўсё. Маладая жанчына, нягледзячы на бледнасць, зусім не была падобная на здань. Яна апусціла вочы, што ніколі не робяць прывіды, і склала рукі на поясе. Яе цнатлівая пастава дазволіла мне меркаваць, што мой сябра дон Отавіо быў не такі ўжо вялікі палітык, якім я яго ўяўляў. Карацей, быў самы час выкрасці Лукрэцыю, і мне ў гэтай прыгодзе была адведзена толькі роля паверніка.

Праз хвіліну прыйшоў пераапрануты дон Отавіо. Прывялі коней, і мы паехалі. У Лукрэцыі пашпарта не было, але хіба можа выклікаць падазрэнні жанчына, ды яшчэ такая прыгожая? Аднак жандар на мяжы заўпарціўся. Я сказаў яму, што ён проста герой і што, па ўсім відаць, ён служыў у арміі вялікага Напалеона. Ён прызнаўся, што так. Я падараваў яму партрэт гэтага вялікага чалавека ў залатой рамцы і сказаў, што звычайна падарожнічаю з *амікай*[1], каб было весялей. А калі ўлічыць, што я мяняю іх даволі часта, дык нашто іх усіх запісваць у пашпарт.

— Гэтая,— дадаў я,— едзе са мною да наступнага горада. Кажуць, што там я знайду яшчэ лепшых.

— Ну, гэтую не варта было б і мяняць,— сказаў жандар і з павагай зачыніў дзверы.

Калі ўжо казаць вам усё, пані, дык гэты здраднік дон Отавіо пазнаёміўся з гэтай мілай асобай, сястрой нейкага Ваноццы, багатага земляроба, чалавека падазронага, бо

---

[1] *Amica* — сяброўка, каханка *(італ.)*.

трошкі ліберала і вельмі кантрабандыста. Дон Отавіо добра ведаў, што, нават калі б яго сям'я і не прысвяціла яго Царкве, яна б ніколі не дазволіла яму ажаніцца з дзяўчынай значна ніжэйшага стану, чым ён сам.

Але каханне падкажа выйсце. Гадаванцу абата Негроні ўдалося наладзіць таемную перапіску са сваёй каханкай. Штоночы ён уцякаў з палаца Альдабрандзі, і з увагі на тое, што прабрацца ў дом Ваноццы было вельмі небяспечна, каханкі прызначалі спатканне ў доме пані Лукрэцыі, благая слава якога была ім найлепшай аховай. Маленькія веснічкі, схаваныя за фігавым дрэвам, злучалі абодва сады. Маладыя і закаханыя, Лукрэцыя і Отавіо, не скардзіліся на нястачу абсталюнку, які складаўся, як я ўжо, здаецца, гаварыў, з аднаго старога скуранога фатэля.

Аднаго вечара, чакаючы дона Отавіо, Лукрэцыя паблытала мяне з ім і зрабіла мне падарунак, які прызначаўся яму. Праўда, узростам і паставай мы былі трохі падобныя з донам Отавіо, і зласліўцы, якія ведалі майго бацьку за часы яго побыту ў Рыме, казалі, што на гэта былі свае прычыны. Здарылася так, што нягоднік-брат дазнаўся пра таемную сувязь, але, як ён ні гразіўся, Лукрэцыя не выдала імя свайго спакусніка. Вы ўжо ведаеце, якая была яго помста і як я збіраўся разлічыцца за ўсіх. Няма таксама патрэбы расказваць вам, як абое каханкі, кожны па-свойму, уцяклі з дому.

Заключэнне.— Мы ўтраіх прыехалі ў Фларэнцыю. Дон Отавіо ажаніўся з Лукрэцыяй і адразу ж выехаў з ёю ў Парыж. Мой бацька прыняў яго гэтак жа цёпла і гасцінна, як мяне маркіза. Ён узяў на сябе клопаты ў справе замірэння сына з маці і, хоць і з пэўнай цяжкасцю, дасягнуў поспеху. Вельмі дарэчы маркіз Альдабрандзі захварэў на балотную ліхаманку і памёр. Дону Отавіо застаўся яго тытул і яго багацце, а я — хросны бацька яго першага дзіцяці.

Напісаная ў 1846 годзе, гэтая навела пры жыцці аўтара не друкавалася. Выйшла ўпершыню ў яго пасмяротным зборніку «Апошнія навелы» (1873).

С. 291. *Il viccolo...*— У італьянскім слове «vicolo» — адно «С».

С. 292. *Гэта сапраўды Леанарда.*— — Карціна Леанарда да Вінчы, пра якую ідзе гаворка ў навеле, відаць, не існуе.

С. 295. *Берніні,* Джаванні Ларэнца (1598—1680) — італьянскі архітэктар, скульптар і мастак, адзін з найвыдатнейшых майстроў мастацтва эпохі барока.

С. 295. *Кляйст,* Фрыдрых-Хайнрых-Фердынанд (1762—1823) — прускі фельдмаршал, удзельнік вайны з Напалеонам.

С. 296. *...бітву пад Лейпцыгам.*— Гэтая бітва паміж войскамі Напалеона і арміяй саюзнікаў скончылася паражэннем французаў, што абумовіла вынікі кампаніі 1813 года.

С. 297. *Агрыпіна* (15—59) — рымская імператрыца, Неронава маці; каб аблегчыць сыну шлях да трона, атруціла свайго трэцяга мужа Клаўдзія, але Нерон, незадаволены яе апекаваннем, у сваю чаргу, загадаў яе забіць.

*Месаліна* (15—48) — рымская імператрыца, трэцяя жонка імператара Клаўдзія I, яе імя сталася сімвалам распусты.

С. 298. *...накшталт Бартола ў Разіны...*— персанажы камедыі Бамаршэ «Севільскі цырульнік».

С. 300. *Імператар Аляксандр.— Старая мае на ўвазе Аляксандра Македонскага, блытаючы яго з папам Аляксандрам* VI Борджа, бацькам Лукрэцыі Борджа.

С. 301. *Квірынал* — адзін з узгоркаў, на якіх пабудаваны Рым.

*Сікст Тарквін* — апошні сын рымскага цара Тарквіна Гордага (VI ст. да н. э.). Старая ў сваім апавяданні блытае Лукрэцыю Борджа з рымлянкай Лукрэцыяй, знясслаўленай Сікстам Тарквінам, які зусім не быў яе братам. Прычынаю для гэтай блытаніны магла стацца распаўсюджаная легенда пра сувязь Лукрэцыі Борджа з яе братам Чэзарэ.

*Ваноццы.*— Мерымэ дае гаспадару дома прозвішча Ваноццы, якое нагадвае імя каханкі папы Аляксандра VI і маці Лукрэцыі і Чэзарэ Борджа — Ваноццы Катанэі.

*Марэмы* — мясцовасць недалёка ад Рыма.

С. 303. *Аляксандр VI* Борджа (1431—1503) — папа рымскі з 1492 года. Пра яго сквапнасць, падступнасць і распуснасць хадзіла шмат паданняў яшчэ пры яго жыцці. Не хаваючы гэтага, ён меў некалькі каханак, але хадзілі пагалоскі, што ён жыў са сваёй дачкой Лукрэцыяй. Як кажа легенда, ён памёр, выпадкова выпіўшы атруту, што прызначалася ім для іншага.

*Чэзарэ Борджа* (1475—1507) — герцаг Валентынуа, сын папы Аляксандра VI і Ваноццы Катанэі. Як і ягоны бацька, ён імкнуўся аб'яднаць пад уладаю сваёй сям'і ўсю Сярэднюю Італію. У гэтай барацьбе ён выкарыстоўваў любыя сродкі, не грэбуючы подкупам, забойствамі і атручаннямі.

С. 309. *...гісторыя крывавай манашкі.*— Адзін з эпізодаў рамана англійскага пісьменніка Мэцью-Грэгары Льюіса (1775—1818) «Манах» (1795). *Дон Алонса* — персанаж гэтага рамана.